

НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА ШУМІЛІНШЧЫНЫ

# СЬВІТАНАК

*Беларусь, твой народ дачакаецца Залацістага, яснага дня! М. Багдановіч.*

№5 (205) САКАВІК 2016 ГОД

ДЭМАГРАФІЯ

## ПАМЕРЛА ЎДВАЯ БОЛЕЙ, ЧЫМ НАРАДЗІЛАСЯ

**За два месяцы з пачатку года (студзень-люты) ў Шумілінскім раёне нарадзіліся 28 дзетак. 10 немаўлят зарэгістравана ў Шуміліне, яшчэ чатыры – у Дабейскім і Мікалаеўскім сельсаветах.**

Натроеноварođжаныхпабагацелiна тэрыторыі Обальскага і Лаўжанскага і сельсаветаў, двое з'явіліся на свет – у Светласельскім сельсавеце, па аднаму – у Сіроцінскім і Мішневіцкім.

Варта адзначыць, што першыя месяцы года выдаліся сціплымі на шлюбы. У студзені было зарэгістравана толькі тры новыя маладыя сям'і. Яшчэ шэсць шлюбаў было зарэгістравана ў нашым раёне ў лютым.

А вось разводаў было болей. Прынамсі, за студзень-люты суд Шумілінскага раёна разгледзеў дзесяць спраў аб скасаванні шлюбу. Прычым ва ўсіх выпадках ініцыятыву на скасаванне шлюбу праявілі жанчыны. Сямёра сем'яў маюць дзяцей. Дзевяць сямей атрымалі тэрмін на прымірэнне.

Таксама ў студзені-лютым Шумілінскі суд пазбавіў бацькоўскіх правоў у адносінах да свайго непаўналетняга дзіця грамадзянку Медыкава з пасёлка Сіроціна.

За студзень-люты ў раёне памерлі 61 чалавек, у тым ліку 9 з іх мелі працаздольны ўзрост.

Па прычыне хвароб сістэмы кровазвароту пайшлі з жыцця 21 чалавек, ад старасці – 11ад знешніх прычын смерці – 6, ад анкалагічных захворванняў – 3.

ПАВОДКА

## ВЯСНОВАЯ ПАВОДКА КАЛЯ МІНІМАЛЬНЫХ ЗНАЧЭННЯЎ

**Заходняя Дзвіна ўжо цалкам ачысцілася ад лёду, назіраецца невялікі ўздым вады. Паводле абласнога цэнтра па гідраметэаралогіі і маніторынгу навакольнага прыроднага асяроддзя, пагрозы падтаплення тэрыторый ад рэк няма.**

Магчыма, недзе будуць праблемы ад празмернасці адталых вод, але ў цэлым сітуацыя спакойная. Цяперашняе вясновая паводка чакаецца такім жа, як і ў два папярэднія гады, гэта значыць блізкім да гістарычнага мінімуму. Гэта абумоўлена маласнежнай зімой і тым, што тэмпературны фон лютага быў вышэй за норму.

Ва ўмовах зімовай адлігі ў рэгіёне назіралася зімовая паводка«, — канстатавалі ў цэнтры. Заходняя Дзвіна ўжо цалкам ачысцілася ад лёду, адзначаецца невялікі ўздым вады. За апошнія суткі ўзровень вырас на 7-9 см. На прытоках Заходняй Дзвіны вада паднялася на 5-7 см. У басейне Дзвіны на тэрыторыі вобласці практычна няма снегу, на пратоках галоўнай воднай артэрыі рэгіёну назіраецца максімальны ўзровень вады.

«Максімум першай хвалі паводкі на Заходняй Дзвіне чакаецца прыкладна праз тыдзень, а другая хваля прыйдзе ў красавіку, калі пацяплее ў вярхоўі ракі на тэрыторыі Расіі», — адзначылі ў аблгідрамеце і дадалі, што гэта прагноз, у які прырода заўсёды можа ўнесці свае карэктывы.

**Еўрарадыё**

***ПАРТАЛ ТВАЙГО ГОРАДА: HTTP://SHUMILINA.BY***

АДУКАЦЫЯ

## ЦІ НАВУЧАЦЬ РОДНАЙ МОВЕ?

**Нягледзячы на тое, што беларускамоўных школ у нашым раёне больш, чым рускамоўных (амаль 60%), гаварыць пра нейкія перавагі роднай мовы не даводзіцца. На сённяшні дзень з 17 школ Шумілінскага раёна беларускамоўнымі з'яўляюцца 10, паведамілі ў аддзеле адукацыі. Але дзяцей тут навучаецца ў разы менш, чым у расейскамоўных…**

Першае і галоўнае: колькасць школ у раёне наогул скарачаецца. І, як правіла, гэта вясковыя беларускамоўныя школы.

Два прыкладу, з гэтага навучальнага года перайшла на рускую мову і Добрынская школа. Дырэктар школы Ніна Бегунова патлумачыла, што добрынскія вучні працягваюць навучанне ў Мікіціхінскай школе ці раённай гімназіі, навучанне ў якіх ідзе на рускай мове. І як толькі зачынілася Лаўжанская школа (беларускамоўная), куды раней ішлі маленькія добрынцы, было прынята рашэнне пераходзіць на рускую мову і ў Добрыне. Нельга не пагадзіцца, што тут найперш улічваліся інтарэсы дзяцей, якім складана "скакаць" з адной (хоць і блізкай) мовы на іншую пры вывучэнні, скажам, матэматыкі ці біялогіі.

Галоўны спецыяліст аддзела адукацыі, спорту і турызму райвыканкама Аксана Талстая расказала, што ні дзеці, ні бацькі, дзеці якіх вучацца ў рускіх школах, пакуль не выказвалі жадання вывучаць, скажам, гісторыю ці геаграфію Беларусі на беларускай мове, як гэта здараецца ў сталіцы.

Нядаўна прайшла інфармацыя, што ў школах Беларусі зменіцца баланс у вывучэнні рускай і беларускай моў. Плануецца, што на вывучэнне моў будзе адведзена аднолькавая колькасць гадзін. Першапачаткова такое новаўвядзенне будзе тычыцца толькі вучняў 2 класа, паведаміла галоўны спецыяліст упраўлення агульнай сярэдняй адукацыі Міністэрства адукацыі Ірына Булаўкіна. "У нас з наступнага навучальнага года, пачынаючы з 2 класа, незалежна ад мовы навучання будзе выдзелена аднолькавая колькасць гадзін на вывучэнне рускай і беларускай моў і літаратуры", – сказала Ірына Булаўкіна (belta.by).

Аднак, нягледзячы на тое, што беларускамоўных школ у нашым раёне больш, чым рускамоўных (амаль 60%), гаварыць пра нейкія перавагі роднай мовы не прыходзіцца, бо асноўная частка дзяцей вучыцца ў гарадскіх школах, якія рускамоўнымі былі і 20 гадоў таму.

А вось у рускамоўнай Обальскай школе пастаянна ладзіцца акцыя "Гаворым па-беларуску", калі апроч усяго іншага запланаванага настаўнікі і дзеці, на ўроках і на перапынках размаўляюць толькі на роднай мове. Вядома, што некаторыя дзеці "прынеслі" гэту звычку са школы дамоў. Ва ўсякім выпадку грамадскаць павінна толькі парадавацца за іх.

**shumilino.by**

ДАРОЖНАЯ БЯСПЕКА

## ЯК ПАВЫСІЦЬ ДЫСЦЫПЛІНУ НА ШУМІЛІНСКІХ ДАРОГАХ?

**29 веласіпедыстаў і 14 уладальнікаў матацыклаў аштрафавалі в Шумілінскім раёне ў студзені-лютым за парушэнні правілаў дарожнага руху.**

Дарога любіць дысцыплінаваных. І калі кіроўца сеў за руль веласіпеда ці матацыкла — захоўвай правілы. Аднаку само жыццё падказвае, што не заўсёды бываюць законапаслухмяныя матацыклісты і веласіпедысты. Каб павысіць дысцыпліну вадзіцеляў і прыцягнуць іх увагу да бяспекі, з 17 па 20 сакавіка супрацоўнікамі дзяржаўтаінспекцыі праводзіліся спецыяльныя комплексныя мерапрыемствы.

Акцыі былі скіраваныя на прафілактыку ДТЗ з удзелам веласіпедыстаў, а таксама вадзіцеляў матацыклаў, мапедаў і скутараў. У рамках мерапрыемства праводзіліся адпрацоўкі дарог і месцаў масавага адпачынку, а таксама шматлікія рэйды.

Так, інспектар дарожна-патрульнай службы Аляксей Шніпаў пабываў у Башнях, Лескавічах і Светласельскім, наведаў некаторыя вуліцы Шуміліна. На гэты раз Інспектар спыніў 8 кіроўцаў мотатранспарту і 7 веласіпедыстаў. Быў адзначаны той станоўчы факт, што ўсе веласіпеды былі абсталяваны катафотамі: спераду — белага колеру, ззаду — чырвонага, па баках — аранжавага. На веласіпедах былі і люстэркі задняга бачання. Усе веласіпедысты ехалі ў святловяртальных камізэльках. Аляксей Шніпаў заўважыў, што прафілактычныя гутаркі, неаднаразова праведзеныя ў калектывах і на прадпрыемствах, усё ж такі далі свой плён.

Іншая справа з уладальнікамі мотатранспарту. На думку работнікаў ДАІ, матацыклы ў многіх жыхароў раёна далёкія ад ідэалу, тым болей дысцыпліна сярод матацыклістаў. Да прыкладу, матацыкліст, якога спынілі ў аграгарадку Башні, ехаў на матацыкле без моташлема, без страхоўкі і тэхагляду, не ўключыў бліжняе святло фар (яго ўключэнне абавязковае для ўсяго мотатранспарту). Як высветлілася, за падобныя парушэнні вадзіцель трапляе ў поле зроку работнікаў ДАІ ў другі раз. З першым штрафам ён ужо разлічыўся, але цяпер наперадзе другі — у 50 базавых велічыняў.

Яшчэ адзін парушальнік быў спынены ў Шуміліне: жыхар райцэнтра ехаў на мапедзе «Хонда» ў стане алкагольнага ап'янення. Цяпер кіроўцу пагражае штраф да 100 базавых велічыняў і пазбаўленне вадзіцельскіх правоў на тры гады. На мапед накладзены арышт, ён знаходзіцца на штрафной стаянцы РАУС.

Усяго за студзень-люты гэтага года на тэрыторыі нашага раёна за парушэнні правілаў дарожнага руху былі аштрафаваны 29 веласіпедыстаў і 14 матацыклістаў.

**Сяржук Крупскі**

ЭКАЛОГІЯ РАЁНА

# ПРАДПРЫЕМСТВЫ-ЗАБРУДЖВАЛЬНІКІ

**Шумілінскія камунальнікі нанеслі шкоды водным аб'ектам больш чым на мільярд рублёў. Факты нанясення шкоды былі дапушчаныя і ААТ «Лаўжанскае».**

Самую вялікую шкоду водным аб'ектам Віцебскай вобласці ў 2015 годзе нанесла жыллёва-камунальная гаспадарка Шумілінскага раёна. Пра гэта паведаміў начальнік аператыўнага аддзела Віцебскага абласнога камітэта аховы прыроды і навакольнага асяроддзя Юрый Каралёў.

У галіне выкарыстання і аховы водных рэсурсаў выяўлена 52 факты, дзе агульная шкода склала 2 мільярды 788 мільёнаў рублёў. Забруджванне водных аб'ектаў было дапушчана УП ЖКГ Лёзненскага раёна, прадпрыемству былі прад'яўлены 3 прэтэнзіі на агульную суму 420 млн.руб., УП ЖКГ Браслаўскага раёна на суму 986 млн.руб., УП ЖКГ Шумілінскага раёна – на суму 1 мільярд 120 мільёнаў рублёў.

Найбольшая колькасць фактаў прычынення шкоды навакольнаму асяроддзю выяўлена ў галіне абыходжання з адходамі. У 2015 годзе такіх фактаў зафіксавана 122, прад'яўленая шкода саставіла 316 млн. рублёў.

У галіне абыходжання з адходамі факты нанясення шкоды былі дапушчаныя ААТ «Лаўжанскае», ДЛГУ «Верхнядзвінскі лясгас», ЗАТ «Віцебскаграпрадукт», КУСГП «Каханавічы», ААТ «Птушкафабрыка Аршанская» і інш.

У 2015 знізілася колькасць выяўленых фактаў прычынення шкоды аб'ектах жывёльнага свету.

Па фактах прычынення шкоды прад'яўлена 268 прэтэнзій аб кампенсацыі нанесенай шкоды на суму 4 мільярды 95 тысяч рублёў.

У 2015 годзе за парушэнні ў галіне экалагічнай бяспекі, прыроднага асяроддзя і парадку прыродакарыстання да адміністрацыйнай адказнасці прыцягнута 3006 парушальнікаў заканадаўства. Агульная сума накладзеных штрафаў склала 3,757 млрд. рублёў.

Да адміністрацыйнай адказнасці ў выглядзе накладання штрафаў прыцягнута 1785 службовых асобы на суму 1,620 млрд.руб., 536 грамадзян на суму 343 млн. руб., 610 юрыдычных асоб на суму 1,793 млрд.руб.

**Алесь Прыбярэжны**

ЗДАРЭННІ, КРЫМІНАЛ

# РАБОЧЫЯ АТРЫМАЛІ ТРАЎМЫ НА ЗАВОДЗЕ

У ходзе праверкі ўстаноўлена, што раніцай 16 сакавіка пры выкананні рамонтных работ на тэрыторыі Обальскага керамічнага завода, трое рабочых ТАА «Прамэнергабуд», 1981, 1983 і 1975 года нараджэння, атрымалі цялесныя пашкоджанні ў выніку падзення са столевага перакрыцця цэха, які знаходзіцца на рэканструкцыі.

Следча-аператыўнай групай неадкладна быў праведзены агляд, зафіксаваныя матэрыяльныя сляды, апытаныя рабочыя, прызначаны шэраг судовых экспертыз.

У цяперашні час следчыя працягваюць высвятляць усе акалічнасці здарэння.

# СКРАЛІ БЕНЗАПІЛЫ

22 сакавіка каля 13 гадзін ў міліцыю звярнуўся 32-х гадовы рабочы, які расказаў аб крадзяжы. У перыяд з 20 гадзіны 21 сакавіка да 10 гадзін 22 сакавіка неўсталяваны злачынец з незачыненай веранды дома па месцы жыхарства здзейсніў крадзеж 3-х бензапіл і вуглашліфавальнай машыны. Нанесены ўрон склаў 3,7 мільёнаў рублёў.

Цяпер вядзецца разбіральніцтва. Вядуцца пошукі злачынцы. Па факту крадзяжу заведзена крымінальная справа па частцы 2 артыкула 205 Крымінальнага Кодэкса.

**Сяржук Крупскі**
**па зводках УУС**

НАШЫ СЛАВУТАСЦІ

# «САЛАЎІНЫ ГОРАД» СА СТАРОЙ СТАНЦЫЯЙ

**Гарадскі пасёлак Шуміліна знаходзіцца паміж Віцебскам і Полацкам, у 40 км ад абласнога цэнтра. Сюды пакуль яшчэ не дайшлі "Дажынкі", таму выглядае ён не так глянцава, як некаторыя райцэнтры. Але ўсё ж ёсць пяць прычын, каб тут спыніцца.**

Шуміліна, па беларускіх мерках, гарадок адносна малады. Да 1886 года гэта была вёска, дзе жыло 38 чалавек. Потым яна стала мястэчкам – дзякуючы якому прайшла праз яго Рыга-Арлоўская чыгунка (участак Дынабург - Віцебск). У першыя гады савецкай улады гэта ўжо райцэнтр. Але раён называўся не Шумілінскі, а Сіроцінскі – па назве бліжэйшай вёскі. Перад вайной у 1938 годзе Шуміліна атрымала статус гарадскога пасёлка.

Назва населенага пункта звязана з легендай. Падчас вайны з Напалеонам на месцы пасёлка партызаны зладзілі засаду. Непрыяцельскі атрад быў цалкам знішчаны. Гукі бою зліліся з шумам сосен і былі чуваць за шмат кіламетраў. У народзе казалі: «Шумела месца гэта калісьці ў бai з французамі». Вакольны лес назвалі шумную борам, а бліжэйшае паселішча – шумнай вёскай. Верагодна так і з'явілася назва Шуміліна.

Сёння ў пасёлку жыве крыху больш за 7 тысяч чалавек. На гербе Шуміліна намаляваны архангел Міхаіл.

**Прычына першая. Старая чыгуначная станцыя**

Першую славутасць турыст убачыць адразу ж, як толькі выйдзе з цягніка або дызеля. Гэты будынак чыгуначнай станцыі – адзін з найстарэйшых у Беларусі.

Рух цягнікоў тут адкрылі 17 кастрычніка 1866 года. Паравоз з трыма вагонамі, пыхкаючы парай, праехаў мястэчка і рушыў у Віцебск. Аб гэтай падзеі быў нават даклад імператару. Яго зрабіў інжынер, першы міністр шляхоў зносін Расійскай імперыі генерал-лейтэнант Пётр Мельнікаў. Ён жа кіраваў будаўніцтвам Рыга-Арлоўскай чыгункі. У 2014 годзе ў яго гонар ля чыгуначнага вакзалу ў Шуміліне ўсталявалі помнік-бюст.

Вакзал абслугоўвалі замежныя спецыялісты, пераважна немцы. Потым, па меры падрыхтоўкі сваіх стрэлачнікаў, кандуктараў, машыністаў і рамонтных майстроў, немцы з сем'ямі пераехалі ў Віцебск, дзе ў канцы XIX стагоддзя ўтварылі зямляцтва і пасёлак (знаходзіцца ў раёне бальніцы № 2).

Станцыя - адзіны помнік архітэктуры ў Шуміліне, які не пацярпеў у вайну.

**Прычына другая. Храмы**

У Шуміліне ёсць тры праваслаўныя храмы. Адзін з іх знаходзіцца ў прыстасаваным будынку на вуліцы Вакзальнай. Другі – у раёне, які месцічы называюць Брыкет. Трэці і самы стары – у адміністрацыйным будынку на вуліцы Сіпко. Гэта царква ў гонар святога Афанасія Брэсцкага. Пабудавалі яе ў другой палове XX стагоддзя. Калі б не крыж і ня купал, адразу і не зразумееш, што гэта была царква.

Яшчэ адзін храм – Свята-Мікалаеўскі, шумілінцы вось ужо некалькі гадоў будуюць талакой.

На ўскраіне пасёлка – вялікі касцёл у гонар Маці Божай Фацімскай. Перад ім помнік Яну Паўлу II.

На вуліцы Ленінскай знаходзіцца, як здаецца, самы прыгожы будынак у Шуміліне. Ён хоць і тыпава савецкі, але менавіта таму на яго варта паглядзець. Тут размяшчаюцца розныя сацыяльныя ўстановы. Насупраць размешчана бібліятэка.

У цэнтры пасёлка – раённы гісторыка-краязнаўчы музей. Фонд музея больш за 10 тыс. экспанатаў: прадметы этнаграфіі, археалагічныя знаходкі, ёсць нават косткі маманта.

Сам райцэнтр не багаты на славутасці, затое значныя помнікі архітэктуры захаваліся ў яго ваколіцах. Так, у вёску Ляскавічы турысты едуць, каб убачыць Свята-Сергіеўскую царкву (канец XIX – пачатак XX стагоддзяў), у вёску Пабеда – каб палюбавацца Свята-Успенскім храмам (канец XIX стагоддзя).

**Прычына трэцяя. Салаўі**

У траўні 2007 года Рэспубліканская грамадская арганізацыя «Ахова птушак Бацькаўшчыны» (АПБ) назвала чатыры самых «салаўіных» горада ў Беларусі. Гэта Мінск, Брэст, Слуцк і Шуміліна. У ходзе падліку тут аказалася ад 224 да 270 спяваючых самцоў. Самую высокую шчыльнасць гнездавання салаўёў адзначылі ў Слуцку – па адной птушцы на 6 га зямлі.

Шуміліна тады атрымала сертыфікат «Салаўіны горад». Пявучых птушак падчас акцыі слухалі не толькі ў райцэнтры, але і яшчэ ў 17 месцах. За вечар налічылі каля тысячы салаўёў. У гэтым годзе рэгіянальная арганізацыя АПБ плануе зноў правесці «Салаўіныя вечары» і паглядзець, ці па-ранейшаму птушыныя салісты вясны любяць гэты край.

Цікава, што птушкай – сімвалам Шуміліна мясцовыя арнітолагі прапануюць зрабіць усё ж не салаўя, а жаўрука. Справа ў тым, што салаўя сабе ўжо забраў Слуцк. Свой птушыны сімвал ёсць і ў Міёраў. Гэта журавель.

З нагоды птушкі-сімвала можа выказацца любы жыхар Шумілінчыны, вашы прапановы чакаюць у Цэнтры дзяцей і моладзі і раённым аддзяленні АПБ.

**Прычына чацвёртая. Вялікі камень.**

У Шумілінскім раёне, недалёка ад вёскі Горкі, ёсць прыродная славутасць – самы вялікі ў Беларусі камень. Яго называюць Вялікі, часам – Чортаў. Валун ледавіковага перыяду складаецца з буйназярністага граніту цёмна-карычневага колеру. Хтосьці кажа, што па форме ён трохі падобны на ляжачага слана, камусьці ён нагадвае прас, а камусьці – перавернутую лодку ...

Навукоўцы лічаць яго самым буйным у Беларусі валуном. Яго памеры – 11 метраў у даўжыню, 5,6 метра ў шырыню, 2,8 метра ў вышыню, вага – каля 300 тон. Валун вельмі глыбока сышоў пад зямлю. Як мяркуецца, яго падземная частка – не менш за 3 метраў.

Каля цуду прыроды пастаянна фатаграфуюцца турысты. Людзі кажуць, што камены вартаўнік шумілінскай зямлі валодае асаблівай энергетыкай: каля яго праходзяць стомленасць і дрэнны настрой. Валун, які «пражыў» на свеце каля 20 тысяч гадоў, з'яўляецца помнікам прыроды рэспубліканскага значэння, ахоўваецца дзяржавай.

Шумілішчына багатая на падобныя помнікі прыроды. Каля вёскі Шавякі ляжыць 6-метровы культавы валун. На ім ёсць паглыбленне – мяркуецца, што продкі рабілі на ім рытуалы, звязаныя са зборам ураджаю, а таксама сляды ад куль – у вайну камень не раз ратаваў мясцовых жыхароў ад немцаў.

У пойме ракі Чэрніца знаходзіцца Плігаўскі валун. Раней тут праходзіў водны гандлёвы шлях, і камень прыносіў нямала праблем купцам, лодка магла пра яго разбіцца дашчэнту. Таму ля каменя выстаўлялі вартавых, а на яго верхавіне ноччу палілі вогнішча.

**Прычына пятая. Сядзіба ў Обалі**

Обаль – гарадскі пасёлак недалёка ад Шуміліна. Турыстам прапануюць тут паглядзець сядзібу Грабніцкіх (пачатак XIX стагоддзя). Знаходзіцца яна на беразе ракі.

У другой палове XIX стагоддзя, калі побач з маёнткам Обаль праклалі чыгунку, шляхцічам Грабніцкім належала каля 2760 дзесяцін ворнай зямлі, а таксама вялікі лясныя масіў. Уладальнікі маёнтка здабывалі гліну і жвір, выраблялі цэглу, прадавалі лес, сплаўляючы яго па рацэ.

Сядзіба ў маёнтку Обаль спачатку была аднапавярховай. Праектаваў яе архітэктар з Францыі. У сярэдзіне XIX стагоддзя тэрыторыю ўпрыгожваў стогадовы сад. У пачатку XIX стагоддзя Станіслаў Грабніцкі пабудаваў ужо двухпавярховы палац з цокальным паверхам у стылі класіцызму. Каля калон параднага ўваходу стаялі каменныя львы. Існуе паданне, што пад адным з іх схавалі скарб.

Памешчык Грабніцкі вядомы тым, што утрымліваў канарэек і гадаваў кветкі. У яго быў асобны пакой, які так і звалі – «канарэйкавая». У палацы таксама мелася вялікая бібліятэка. Пад будынкам праходзіў падземны ход, які выводзіў на супрацьлеглы бераг ракі.

Пасля рэвалюцыі ў палацы жылі былыя парабкі і супрацоўнікі міліцыі. Пазней тут адкрылі школу сялянскай моладзі, пасля вайны сюды пераехаў дзіцячы дом. Затым панскі маёнтак перадалі керамічнаму заводу – пад інтэрнат. У пачатку 1990-х гадоў жыхароў выселілі, а праз некаторы час тут здарыўся пажар.

Сёння былы палац выглядае сіратліва і запушчана. Акрамя руін сядзібы, захаваўся галоўны флігель, у якім утрымлівалі птушак для палявання. Зараз тут размяшчаецца музей Обальскага падполля «Юныя мсціўцы».

**TYT. BY**

***Пераклад с расейскай мовы рэдактара***

## АБ'ЯВА

*• Каб атрымліваць кожны нумар газеты «Світанак» паведаміце рэдакцыі аб гэтым – зрабіце бесплатную падпіску. Калі не жадаеце атрымліваць газету, то патэлефануйце.*

***• Калі прачыталі "Світанак", то калі ласка, перадайце знаёмым.***

*• Наша газета стала размяшчаецца на партале http://kamunikat.org, дзе зацікаўленыя грамадзяне могуць яе спампаваць са старонкі: http://kamunikat.org/svitanak.html для далейшага выкарыстання яшчэ да з'яўлення газеты на паперы.*

УГОДКІ БНР

# ВІНШАВАННЕ СТАРШЫНІ РАДЫ БНР

**Віншаваньне Рады БНР да 98-й гадавіны абвяшчэння незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі.**

"Дарагія суродзічы, 98 гадоў таму — ранічкай 25 сакавіка 1918-га — на нашай зямлі адбыўся цуд: паняволены, зьнямоглы вайной беларускі народ заявіў, што «ад гэтага часу Беларуская Народная Рэспубліка абвяшчаецца незалежнай вольнай дзяржавай».

Сёньня Беларусь жыве!

Жыве, дзякуючы рашучасьці нашых продкаў у 1918-м годзе, але таксама дзякуючы жыцьцяздольнасьці кожнага з нас!

Дваццатае стагодзьдзе было адным з найстрашнейшых у гісторыі чалавецтва, і асабліва моцна пацярпеў наш край. Мы вытрымалі дзьве чужыя вайны, шматлікія спробы генацыду нашага народу — высылкі, расстрэлы, дыктатуры, выгнаньне трацiны нашага народу ў замежжа. Чужакі нішчылі нашую прыгожую мову, нашую шматвяковую культуру, нашую веру, нашае пачуцьцё годнасьці. Нягледзячы на ўсё гэта, мы выжылі. Мы жывём, і жыве Беларусь!

Дарагія суродзічы, прыпамінаю цяжкія часы, каб вы не зьнеахвоціліся.

Калі мы часам робімся больш асьцярожнымі, ці памяркоўнымі, гэта таму, што мару пакаленьняў. І вось ужо чвэрць стагодзьдзя наш край незалежны — але ўсё яшчэ не свабодны.

Прыйдзе час, калі будзем сапраўды той незалежнай, вольнай дзяржавай, пра якую гаварылі нашыя Дзяды, калі наш кай далучыцца да




адчуваем, што надыходзяць цяжкія часы, і нам трэба іх перажыць.

Сёньня, аднак, хачу яшчэ раз выказаць вам сваю веру, што мы дасягнем тае лепшай будучыні, пра якую мы марым. Пацьверджаньне нашай моцы бачым у зусім нядаўняй гісторыі — калі 25 жніўня 1991 году беларусы здолелі скарыстаць шанец і аднавілі Незалежнасьць,зьдзейсьніўшы сям'і заможных і паважаных эўрапейскіх народаў. Мы даказалі, што мы вартыя гэтай павагі.

Жадаю вам сёньня мужнасьці і вытрываласьці. Мы яшчэ пабачымся у вольнай Беларусі. Моцна веру ў гэта, і хачу, каб кожны з вас у гэта верыў.

Жыве Беларусь!

**Івонка Сурвілла,**
**Старшыня Рады Беларускай Народнай Рэспублікі"**

ДЕЛО САВЧЕНКО

# САВЧЕНКО – УКРАИНСКАЯ ЖАННА Д'АРК

**Все, происходящее с Надеждой доселе, с точки зрения московских стратегов, было несомненной удачей. И, пожалуй, зря вы думаете, что ее будут менять на военнослужащих Ерофеева и Александрова.**

Савченко — это украинская военнослужащая, сражавшаяся на территории Украины против незаконных вооруженных формирований, посягающих на целостность украинского государства. С какой стати и за что судить ее на территории России?

Если мы признаем, что люди, против которых сражалась Савченко, наши агенты, — то нельзя судить противника за участие в войне. Если мы не признаем этих людей своими агентами, то это значит, что они — террористы. Невозможно судить человека за борьбу с терроризмом.

В принципе дело Савченко упирается в одну простую проблему. Если ты посылаешь боевиков на территорию сопредельного государства, ты не можешь судить тех, кто сражается против них, как убийц мирных граждан.

Чтобы обойти эту закавыку, Савченко предъявлено конкретное обвинение. Ее обвиняют не в том, что она, украинская военнослужащая, сражалась против засланных на территорию ее страны боевиков. Ее обвиняют в том, что 17 июня 2014 года она убила двух российских журналистов — Игоря Корнелюка и Антона Волошина. Так как журналисты были убиты при минометном обстреле, то обвинители, чтобы как-то привязать к делу Савченко, заявили, что она залезла на вышку сотовой связи, с которой и корректировала обстрел.

Проблема в том, что это конкретное обвинение высосано из пальца. Савченко была захвачена в плен за час до гибели Волошина и Корнелюка. Это подтверждается билингами обоих ее телефонов, которые суд отказался принять во внимание. Это также подтверждается расположением солнца и теней на видеозаписях, сделанных при взятии Савченко в плен.

Кроме того, версия о том, что минометный огонь (кто бы его ни вел) специально велся по журналистам, — не выдерживает критики. Волошин и Корнелюк погибли потому, что передвигались вместе с боевиками, по которым и велся огонь.

Третьим обстоятельством дела является вопрос о том, как вообще Савченко оказалась на территории России. Здравый смысл заставляет предполагать, что она была взята в плен сепаратистами 17 июля 2014 года около 10 часов утра, передана кураторам и насильно вывезена в Россию.

Те, кто ее вывозил, являются похитителями человека, а значит, уголовными преступниками. Чтобы скрыть этот очевидный факт, организаторы похищения, являющиеся одновременно организаторами дела против Савченко, выдумали фантастическую историю о том, что после взятия в плен Савченко была отпущена, а затем незаконно перешла границу, где и была задержана.

Одна из проблем дела украинской Жанны д'Арк — это несоответствие между высоким политическим уровнем, на который оно поднялось, и низким интеллектуальным уровнем фальсификаторов, которые его лепили.

Modus operandi Кремля заключается в том, что он никогда не курирует спецоперацию до конца, чтобы потом иметь возможность отрицания: «Я? Да я тут ни при чем!»

Когда следователь Дмитрий Маньшин допрашивал Савченко в Ростове, он, очевидно, не предполагал, что допрашивает женщину, которая будет избрана депутатом Верховной рады и Европарламента. Женщину, которую накануне вынесения приговора потребует без всяких условий освободить госсекретарь США. Женщину, из-за которой депутаты Европарламента создадут «список Савченко».

Следователь Маньшин не знал, что допрашивает украинскую Жанну д'Арк. Жанна д'Арк не входила в интеллектуальный и умственный горизонт следователя Маньшина.

Вторая проблема дела Савченко заключается в том, что в области внешней политики московские стратеги

*(працяг на стар. 4)*

НАША СВЯТА

# НАКОСЯЧИЛИ

**Про эффект первой пуговицы знают все. Если только застегнешь ее неправильно, то дальше что-то исправлять уже бесполезно. Хоть шарфиком прикрывай, хоть сумочкой, хоть руками полы придерживай...**

Все равно дальше все идет наперекосяк: воротник разъезжается, плечи сползают, карманы «пляшут»...

Выход один – расстегнуться и застегнуть все сначала.

Вчера, на День воли, глядя на бело-красно-белые флаги и ленточки, на "Погоню", на людей, который искренне поздравляли друг друга с праздником, вновь вспомнила именно про этот эффект первой пуговицы.

Ведь именно после того, как Беларусь отказалась от исторически-мотивированных национальных символов, у нас все пошло наперекосяк. Истинные пат-риоты Беларуси оказались "пятой колонной", адепты империи – патриотами. Те, кого интересует исключительно чарка-шкварка были признаны хорошими белорусами, те, кого интересует национальный язык, история, Идеи в широком смысле этого слова – врагами, нехорошими, неправильными. И даже если совсем не про высокие материи говорить, даже если говорить про деньги, то все равно "косяк" получился. Со всех трибун возвещали, что строим национальную экономику, но делали это по принципам российского региона. Вот и имеем то, что имеем.

Теперь, после Украины, вроде, затмение потихоньку развеивается. Официальные структуры начали старательно искать содержание для билбордов со слоганом "То, что нас объединяет". И признали, что не "Дожинки" объединяют белорусов, не хоккей и даже не Всебелорусское народное собрание. Несмело констатировали, что объединяют нас мова, история и культура, о чем теперь свидетельствуют большие плакаты на улицах городов. Вот только о самом главном словами не говорят. И если выразить то, что нас объединяет, символами, то придется вновь вернуться к тому, с чем старательно сражались, - к бело-красно-белому стягу и гербу "Погоня".

Как ни пытались эти символы дискредитировать, как ни втаптывали в грязь, как ни наказывали за их использование, как ни промывали мозги на политинформациях и через СМИ, но то, что имеет действительно глубокие корни - не выкорчевать. На груди, у сердца, люди стали делать татуировку не "капусты", но всадника. Без какого-то приказа, без суровой директивы, без ультимативной агитации. Сами, по велению души. Потому что так хотят, так чувствуют.

Как ни бдели идеологи, как ни тужились, но даже на концертах типа "Дни Беларуси в Москве" вдруг выяснялось, что почти все творческие коллективы одеты в бело-красно-белое. Случайно, не сговариваясь. Отобранные, благонадежные проверенные коллективы – и такой демарш.

Или вспомните, как бело-красно-белые зонтики у людей отбирали – чтобы нигде в городе даже не было намека на исторический флаг. А теперь в государственных магазинах продают и зонтики, и майки, и сумки, и ленты, и пакеты, и шарфы в национальных цветах. Значит, есть спрос. Значит, люди этого хотят. Значит, борьба была бессмысленной. Власти проиграли, победили зонтики.

Белорусская идея победила! В головах, в сердцах неравнодушных людей победила!

Реинкарнация советской символики в суверенной Беларуси не удалась. Не сроднились мы с ней, не полюбили. Власти пришлось даже отдельный закон писать, чтобы нормами и правилами хотя бы видимость почитания официальных символов обеспечить. Но какими нормами можно прописать любовь, трепет, гордость, волнение... Как заставишь, если никаких эмоций красно-зеленый флаг не вызывает, что-то глубинное не затрагивает? А вот бело-красно-белый - без всяких законов, указаний и норм - красивый, величественный, по-настоящему державный... Свой! Наш!

И "Погоня" – это как связь с чем-то значимым через века. Это как сила, помощь, вера, которая скачет из нашего прошлого в наше будущее. А снопы, колосья, лён, клевер... Скосили – сгнило. Вот и весь символ.

Сейчас, когда оглядываешься назад, то очень четко виден момент, с которого в Беларуси все пошло наперекосяк. Поменяли символы – и все стало разъезжаться. Можно подтягивать полы, можно шарфиком прикрываться, можно сумочкой; можно – ОМОНовскими щитами, можно тоннами книг по государственной идеологии, но все равно придется вернуться к тому, с чего накосячили – к своим настоящим символам. И потом все пойдет значительно легче.

**Светлана Калинкина**
**«Народная воля»**

ДЕЛО САВЧЕНКО

*(пачатак на стар. 3)*

повторили дипломатические достижения покойного Муамара Каддафи. Ну, помните, когда у Каддафи из-за полной антисанитарии в госпиталях разразилась эпидемия СПИДа?

И Каддафи, не будь дураком, арестовал болгарских медсестер, приехавших по линии Красного Креста лечить ливийцев, пытками выбил из них показания, что они нарочно заражали СПИДом ливийских детей, и — добился-таки своего: заставил Запад уважать себя. Сам Саркози приехал в Ливию, чтобы поменять освобождение заложниц на снятие санкций против Ливии.

Каддафи первый понял, что это с террористами приличные страны не разговаривают. А когда заложника берет не террорист, а государство, разговаривают, да еще как!

Поэтому все, происходящее с Надеждой Савченко доселе, с точки зрения московских стратегов, было несомненной удачей. Ее героическое поведение, ее голодовки, ее избрание в Европарламент — все это только набивало ей цену. Вы думаете, Савченко будут менять на военнослужащих Ерофеева и Александрова? Ха!

Навязчивой идеей является отмена санкций. Савченко будут менять только на санкции. Хотите Савченко — снимайте санкции.

И очень возможно, что Москва добьется своего. Но, как учит история, у тактических преимуществ могут быть некоторые стратегические недостатки...

**Юлия Латынина**
**«Новая газета»**

СПРАВА ЧЫЖА

# ПЯТЬ ФАКТОВ О ЗАДЕРЖАННОМ ЧИЖЕ

**«Наша Ніва» приводит фрагменты из биографии Юрия Чижа.**

**Жена — обладательница велнес-клуба, дети учились за границей**

Светлана Чиж, жена миллионера, в 2015 году попала в список «Топ-50 самых стильных женщин Беларуси» по версии журнала XXL.

Она является владелицей велнес-клуба EVO.

Велнес — это такая концепция здорового образа жизни, основанного на сочетании физического и духовного здоровья. Воспользоваться услугами центра могут только члены клуба — это закрытое учреждение.

Старшие дочь и сын Юрия и Светланы Чижов получали образование за рубежом. Сергей — в Англии, Татьяна — во Франции.

«Сыну было трудно в Англии, его тянуло домой, но он терпел. А когда закончил обучение, сказал, что хотел бы вернуться. Сейчас работает вместе со мной», — говорил Чиж.

После учебы в Оксфорде Сергей стал членом наблюдательного совета Минского завода игристых вин, акционером которого является «Трайпл».

Татьяна также вернулась на родину, она училась в Париже гостиничному и ресторанному бизнесу.

Младший сын Чижа учится в БНТУ по специализации «Экономика и управление производством».

**Копал картошку, косил траву, отдыхал на море... с Александром Лукашенко.**

Юрий Чиж неизменно входил в тот небольшой пул, с которым проводил время глава Беларуси Александр Лукашенко.

Даже в прошлом году Чиж вместе с Лукашенко копал картофель в Дроздах, свозил арбузы и дыни. Присутствовал он и при обучении француза Депардье навыкам косьбы.

Также Юрий Чиж всегда сопровождал главу Беларуси во время отдыха — хоть в Сочи, хоть в ОАЭ. Из бизнесменов в таких мероприятиях участвовал еще Александр Шакутин, хотя все знали, что между этими двумя миллионерами существовал определенный антагонизм.

**Часы за 400 тысяч долларов**

Скандинавские миллионеры стараются не демонстрировать свое богатство. Ходят в обычной одежде, ездят на обычных машинах. Юрий Чиж — богач другого типа. Например, бизнесмен всегда публично появлялся с очень дорогими часами на руке.

В 2011 году «Наша Нива» зафиксировала, что Юрий Чиж носит платиновые часы Ulysse Nardin, которых всего 30 штук в мире. Цена такого часов колебалась в районе 400 тысяч долларов.

Через два года владелец «Трайпла» пришел на исполком Белорусского федерации футбола с Patek Philippe Celestial Grand Complication, цена которого — в районе 260 тысяч долларов.

Вот к таким красивым вещам тянуло миллионера.

**Интересная манера играть в футбол**

Чиж — заядлый любитель футбола и борьбы. Он посещал практически все игры своего «Динамо». Причем в последнее время на стадионе «Трактор» садился прямо на трибунах, а не в какой-нибудь ложе. Всегда недалеко от него сидел бывший премьер-министр Владимир Ермошин. Чиж и сам не против поиграть в футбол. Главный тренер сборной Беларуси Александр Хацкевич был свидетелем, как бизнесмен держится на футбольном поле.

«Наверное, со стороны это выглядит достаточно интересно. Я не раз играл и за команду Юрия Саныча, и против нее. Эмоций очень много. Может, техники и мастерства иногда недостает, но страсть и энергия все это компенсируют. Юрий Саныч очень не любит проигрывать. Часто начинает руководить всеми на поле. Исполняет исключительно центрального нападающего. Иногда действует за счет тарана, иногда за счет своего авторитета. А порой берет на себя судейские обязанности. Спорная ситуация, соперник кричит, мол, ничего не было, а Юрий Саныч останавливается и говорит: «Нет, здесь точно был фол». И все соглашаются:). Некоторые моменты, конечно, комедийные. Но главное, что наши пульки — это эмоции и хорошее настроение», - говорил Хацкевич в интервью by.tribuna.

**Строил под Минском новые резиденции**

У Чижа есть коттедж в столичных Дроздах, самом престижном квартале Беларуси, но он решил заиметь еще и поместье за пределами Минска. Его новый дом находится возле Логойска. Общая площадь коттеджа огромная, аж 875 м2. Во дворе запланированы баня и бассейн. Чиж редко давал интервью не на спортивные темы. Однажды он рассказал о своих приоритетах в музыке.

«Я в плане музыки всеяден, но больше люблю авторские песни. Очень нравится Владимир Высоцкий. Ну и вообще — ретро: музыка 1970—1980-х, те вещи, на которых вырос. Все-таки раньше больше было смыслового и высокохудожественного. А сейчас: два раза топнул, два раза пристукнул».

**Змитер Панковец**
**«Наша Ніва»**

ПРАБЛЕМА ЎЗРОСТУ

# ПЕНСІЙНЫ ЎЗРОСТ ПАВЫШАЦЬ НЕЛЬГА

**Ёсць, як мінімум, тры прычыны, якія дазваляюць заяўляць пра тое, што павышэнне пенсійнага ўзросту з'яўляецца неабгрунтаваным рашэннем. Яно зусім будзе не на карысць нашай эканоміцы. І вось чаму.**

**Прычына першая: дэмаграфічная**

Цалкам абапіраючыся на дадзеныя Белстата, прывяду ўсяго некалькі цікавых статыстычных фактаў.

У 1955 годзе ў БССР нарадзілася 194 345 чалавек. У канцы 2014 года ў Беларусі ў 59-гадовым узросце знаходзіліся 129 916 чалавек. Калі не ўлічваць міграцыі, то атрымліваецца, што 33,2% насельніцтва не дажыло да 60-годдзя.

У 1950 годзе ў БССР нарадзілася 197 164 чалавек, у канцы 2014 года ў Беларусі ў 64-гадовым узросце было толькі 109 510 чалавек. Гэта значыць на пачатак 2015 года не дажыло да 65-годдзя 44,5% насельніцтва.

Такім чынам, павелічэнне пенсійнага ўзросту на 5 гадоў азначае, што 11,3% насельніцтва пазбавяцца магчымасці дажыць да пенсійнага ўзросту.

**Прычына другая: кадравая**

У апошнія гады ў Беларусі назіраецца паступовае зніжэнне колькасці занятага насельніцтва. За 2015 год скарачэнне колькасці работнікаў склала больш за 60 тысяч чалавек. Прычым асноўная частка скарачэнняў прыпадае на буйныя арганізацыі з дзяржаўным капіталам. Прадпрыемствы вымушаныя скарачаць колькасць работнікаў у пагоні за ростам прадукцыйнасці працы і зніжэннем сабекошту выраблена прадукцыі. Пры гэтым усплёску беспрацоўя мы не назіраем. Чаму?

Для адказу на пытанне варта зірнуць на ўзроставую структуру насельніцтва. На пачатак 2015 года ў Беларусі пражывала 83 972 54-гадовых жанчыны і 57 700 59-гадовых мужчын. Такім чынам, у 2015 годзе пенсійнага ўзросту дасягнула 141 872 чалавекі. У 16-гадовым узросце на пачатак 2015 года было толькі 91 238 чалавек. Колькасць памерлых у працаздольным узросце ў 2014 годзе склала 24 367 чалавек. З гэтых дадзеных з пэўнай умоўнасцю (частка грамадзян сыходзяць на пенсію па выслузе, частка па інваліднасці) можна ўсталяваць, што па дэмаграфічных прычынах працаздольнае насельніцтва Беларусі за год скарацілася прыкладна на 75 тысяч чалавек. Гэта нават больш, чым фактычнае скарачэнне занятага насельніцтва.

У выніку павелічэнне пенсійнага ўзросту створыць каласальную нагрузку на беларускі рынак працы. Знайсці працу ва ўмовах эканамічнага крызісу стане неверагодна складана. Горш за ўсё давядзецца моладзі, паколькі знайсці сабе месца працы без неабходнага вопыту значна складаней. У выніку мы будзем мець масавы адток моладзі за мяжу ў пошуках працы. Многія з гэтых маладых людзей будуць страчаныя для беларускай пенсійнай сістэмы назаўсёды, паколькі нават пры ўмове вяртання ў краіну напрацоўваць мінімальны 20-гадовы працоўны стаж у іх ужо не будзе ні часу, ні жадання.

**Прычына трэцяя: эканамічная**

Для тых, каму двух першых прычын недастаткова, прывяду, мабыць, самы важкі аргумент — эканамічны.

Для гэтага неабходна памятаць пра тое, што сродкі, прызначаныя для выплаты пенсій, — не падарунак ад дзяржавы. Яны пералічваюцца намі ж і нашымі працадаўцамі ў Фонд сацыяльнай абароны насельніцтва (ФСАН) з кожнай нашай зарплаты.

Таму прапаную зірнуць на сумы, якія мы адлічваем на пенсію на працягу свайго працоўнага жыцця, і супаставіць іх з фактычнай велічынёй пенсій, якія нам выплачваюць.

Вызначыць сярэднюю велічыню пенсійных унёскаў у Беларусі не так проста. Справа ў тым, што ўнёскі на пенсійнае страхаванне пералічваюцца як самімі работнікамі, так іх працадаўцамі, а велічыня ўнёскаў залежыць ад памеру заработнай платы супрацоўніка. Таму для чысціні эксперыменту будзем выкарыстоўваць унёскі на пенсійнае страхаванне, якія выплачваюцца індывідуальнымі прадпрымальнікамі.

Справа ў тым, што ІП сам вызначае памер свайго даходу, з якога ён будзе выплачваць унёскі. Аднак памер даходу не павінен быць меншы за суму мінімальных заробкаў за год. Такім чынам, ІП абавязаны выплаціць у ФСАН унёсак у памеры не менш за 35% мінімальнай заработнай платы. Пры гэтым выразна вызначана, што 29% прызначаюцца на страхавыя ўнёскі па пенсійным забеспячэнні.

У цяперашні час памер мінімальнай заработнай платы складае 2 300 000 рублёў. Такім чынам, мінімальны памер штомесячных унёскаў прадпрымальнікаў на пенсійнае страхаванне складае 667 000 рублёў. На сённяшні дзень гэта крыху больш за $ 32.

Прымаючы пад увагу, што сёння за размяшчэнне доўгатэрміновых укладаў у валюце беларускія банкі прапануюць ад 4% гадавых, різлічым, якую б суму здолелі назапасіць прадпрымальнікі, калі б страхавыя ўнёскі па пенсійным забеспячэнні размяшчалі на доўгатэрміновым валютным укладзе. …

…грамадзяне Беларусі сёння атрымліваюць пенсію значна меншую,




чым маглі б. Раней гэта можна было спісаць на той факт, што вялікая частка пенсійных унёскаў пенсіянераў загадала доўга жыць разам з СССР. Але з кожным годам велічыня пенсійнага фонду, сфармаванага ў незалежнай Беларусі, павінна станавіцца ўсё большай. А значыць, беларусы маюць права чакаць альбо паступовага павелічэння пенсій, альбо скарачэння памеру пенсійных унёскаў.

Але паколькі замест гэтага нам кажуць аб неабходнасці павышэння пенсійнага ўзросту, то ўзнікае простае пытанне: «А дзе ж пенсійныя ўнёскі беларусаў за апошнія 25 гадоў?» Калі іх стала не хапаць нават на цяперашні памер пенсій, то гэта азначае, што сродкі былі выкарыстаныя надзвычай не эфектыўна. Калі ж гэта не так, то павелічэнне пенсійнага ўзросту павінна суправаджацца альбо істотным ростам памеру пенсій у доларавым выражэнні, альбо сувымерным скарачэннем велічыні пенсійных унёскаў.

*(скарочана)*

**Аляксей Харкевіч**
**"Новы час"**

**Заснавальнік:** Салодкі Сяргей Аляксандравіч
**Рэдактар:** Шчамлёў Аляксандр Міхайлавіч
**Адрас рэдакцыі:** 211262, Шумілінскі раён, п/а Амбросавічы.
Тэл. 3-73-74, маб. +375299870742.
Газета выдаецца з верасня 2000 г.
**Падпісана да друку 30.03.2016 у 15.45**
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.
Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца пры дапамозе аднадумцаў.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.